www.nv-online.info

№ 37 (3778)

10 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Мінск. 9 мая 2013 года








Фота БЕЛТА.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Праелі

*Толькі за красавік золатавалютныя рэзервы зменшыліся на 334 мільёны.*

Нацыянальны банк даў справаздачу аб стане золатавалютных рэзерваў Беларусі. Праўда, як заўсёды, у дэталях.

Фармальна сітуацыя выглядае выдатнай. Золатавалютныя рэзервы нават павялічыліся. Калі іх разлічваць па методыцы Міжнароднага валютнага фонду, — то на 106,2 мільёна долараў. У нацыянальным вызначэнні — на 63,3 мільёна.

І ўсё б выглядала нядрэнна, калі б менавіта ў красавіку Беларусь не атрымала чарговы транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у памеры 440 мільёнаў долараў. Прычым грошы паступілі толькі 30 красавіка, а значную частку іх мы ўжо паспелі "праесці".

Дарэчы, адмоўны ўплыў на аб'ём золатавалютных рэзерваў аказала значнае зніжэнне цаны на золата на міжнародным рынку каштоўных металаў.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ДАРЭЧЫ

## Пад нож

*У бліжэйшы час стане вядома, якія дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў нашай краіне трапяць пад скарачэнне.*

Да 1 мая Адміністрацыя прэзідэнта сумесна з Саветам бяспекі павінна была ўнесці прапановы *"па аптымізацыі сеткі дыппрадстаўніцтваў і консульскіх устаноў"*.

Так старанна нашы дыпламаты нахвальвалі беларускія парадкі, але і іх гэта не выратавала ад скарачэння.

Ды і сапраўды, навошта такая колькасць паслоў і пасольстваў, калі ўсё роўна асноўным гандлёвым і палітычным партнёрам для нас як была, так і застаецца Расія? А вось каб не так старанна хвалілі, каб слухалі разумных людзей, то і краіна развівалася б, і не заходзіла б размова пра неабходнасць скарачэння дыпламатаў.

**ДА ЎВАГІ**

*Канец красавіка — першая палова мая — суцэльныя святы. Нягледзячы на гэта, нам удавалася вытрымліваць графік выхаду газеты. Але, на жаль, на будучым тыдні з-за Радаўніцы, якая прыпадае на аўторак, рэдакцыя не мае магчымасці парадаваць чытачоў чарговым нумарам: не працуюць ні друкары, ні сувязісты.*

*Сустракаемся ў наступную пятніцу 17 мая.*

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## Ці атрымае Лукашэнка запрашэнне на саміт?

Пасол Беларусі ў Германіі Андрэй Гіро зрабіў заяву, што Мінск разлічвае атрымаць запрашэнне на ўдзел у саміце "Усходняга партнёрства", што адбудзецца ў лістападзе ў Вільнюсе, на імя Аляксандра Лукашэнкі. А ўжо потым беларускі бок будзе сам вырашаць, каго камандзіраваць ад Беларусі.

Заява Андрэя Гіро прагучала ў Берліне падчас дыскусіі, якая прайшла ў межах серыі мерапрыемстваў пад эгідай Мінскага форуму.

Напэўна, каб усе зразумелі, што гэтая заява — не спантанная, беларускі дыпламат нагадаў, што ў 2009 годзе кіраўнік МЗС Чэхіі Карэл Шварцэнберг прывёз у Мінск запрашэнне для Аляксандра Лукашэнкі на ўдзел у інаўгурацыйным саміце "Усходняга партнёрства" ў Празе. У той жа час, адзначыў Гіро, па дыпламатычных каналах паступалі просьбы накіраваць на саміт у Прагу іншага прадстаўніка Беларусі. Мінск прыняў гэтае "дзіўнае запрашэнне", бо звязваў з новай палітыкай ЕС вялікія надзеі, растлумачыў пасол. Аднак, дадаў Гіро, гісторыя "Усходняга партнёрства" — гэта "чарада расчараванняў".

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Мінск і Брусель вядуць зараз кансультацыі пра фармат удзелу Беларусі ў саміце. У прыватнасці, абмяркоўваецца магчымасць запрашэння на сустрэчу міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, які знаходзіцца ў спісе неўязных у ЕС. Гэтае пытанне звязваюць з вызваленнем і рэабілітацыяй беларускіх палітзняволеных.

РЭБУС

## А для каго?

*Аляксандр Лукашэнка нарэшце расставіў кропкі над "і" ў справе таямнічай будоўлі, што вядзецца пры павышаных мерах бяспекі на праспекце Незалежнасці. Хадзілі чуткі, што гэта будзе новая прэзідэнцкая рэзідэнцыя, ці Дом прыёмаў замежных дэлегацый, ці проста адміністрацыйны будынак. І вось нарэшце ўсё высветлілася...*

*"Гэты комплекс быў задуманы як апошняя буйная кропка ў спрэчках аб нашай незалежнасці. Гэта, калі хочаце, дэманстрацыя таго, што Беларусь — гэта краіна, у гэтай краіне ёсць усё: ад зямлі, герба, сцяга і гэтага Палаца незалежнасці",* — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Ён расказаў, што ў Палацы незалежнасці "будуць праходзіць асноўныя дзяржаўныя мерапрыемствы, пачынаючы ад уручэння замежнымі пасламі даверчых грамат і заканчваючы нарадай кіраўнікоў дзяржаў, якія прыязджаюць да нас... Яны павінны прыязджаць і бачыць, што Беларусь — гэта дзяржава і нікому яе павярнуць і нахіліць больш не ўдасца. Гэта галоўны цэнтр нашай краіны, цэнтр незалежнасці нашай дзяржавы".

"Народная Воля" вырашыла пацікавіцца, як часта да нас залятаюць высокія замежныя госці, для прыёму якіх спатрэбіўся Палац незалежнасці.

У мінулым годзе Беларусь наведвалі:

— прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў,

— прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў,

— прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін,

— прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў,

— старшыня ўрада Расіі Дзмітрый Мядзведзеў.

Такім чынам, і раз на два месяцы ў мінулым годзе гэты палац не быў бы задзейнічаны.

Прааналізуем 2011 год. У ім кіраўнікі дзяржаў Беларусь увогуле не наведвалі. Якія візіты і былі — дык толькі старшыні ўрадаў:

— Уладзіміра Пуціна — на той момант кіраўніка расійскага ўрада,

— Мікалая Азарава — кіраўніка ўкраінскага ўрада,

— Тыграна Саркісяна — кіраўніка ўрада Арменіі,

— акрамя таго, у Мінску праходзіла сустрэча Савета міністраў замежных спраў дзяржаў — членаў АДКБ.

Такім чынам, і ў 2011 годзе не было столькі мерапрыемстваў і візітаў, каб загрузіць Палац незалежнасці..

Дык ці была вострая неабходнасць брацца за яго будаўніцтва?

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

СОЦЗАЩИТА

## Пенсия ветерана — почти 3 млн рублей

*В Беларуси средний размер пенсии по возрасту в мае текущего года у инвалидов Великой Отечественной войны составляет 3 миллиона 385,7 тысячи рублей (в том числе I группы — 3 миллиона 591,9 тысячи, II группы — 3 миллиона 442,7 тысячи, III группы — 2 миллиона 735,8 тысячи рублей), у ветеранов войны — 2 миллиона 944,1 тысячи рублей.*

Об этом сообщил на пресс-конференции заместитель министра труда и социальной защиты **Александр Румак**.

Средний размер пенсии по инвалидности у инвалидов войны, получающих пенсии в органах по труду, занятости и соцзащите, в мае составляет 2 миллиона 566,9 тысячи рублей. (в том числе I группы — 3 миллиона 270,1 тысячи, II группы — 2 миллиона 955,3 тысячи, III группы — 1 миллион 688 тысяч).

Александр Румак отметил, что, учитывая особый статус ветеранов Великой Отечественной войны, к их трудовой пенсии, назначенной в зависимости от продолжительности трудового стажа и величины заработка перед выходом на пенсию, установлены повышения в размере от 50% до 500% минимального размера пенсии по возрасту (МПВ с 1 мая равняется 243 тысячам 528 рублям).

Так, Героям Советского Союза, лицам, награжденным орденом Славы трех степеней, повышение установлено в размере 500% МПВ; инвалидам войны I и II группы — 400% МПВ; инвалидам войны III группы и участникам войны — 250% МПВ; блокадникам Ленинграда — 100% МПВ; награжденным труженикам тыла — 50% МПВ. Кроме того, к пенсиям инвалидов I группы установлена надбавка на уход в размере 100% МПВ, лиц, достигших 80-летнего возраста, — 50% МПВ.

С 1 января 2012 года неработающим пенсионерам, получающим пенсию в органах по труду, занятости и соцзащите, установлены возрастные доплаты. Их размер для людей, достигших 75-летнего возраста, составляет 75% МПВ, а достигших 80-летнего возраста — 100% МПВ.

С ПРАЗДНИКОМ!

## День Победы для моей семьи

День Победы — особый для меня праздник. Воевали на фронте мой отец Илья Алексеевич и два брата моей матери — Моисей Акимович и Александр Акимович. Их призвали в действующую армию после освобождения Брестчины осенью 1944 года.

Отцу повезло — он пришел с фронта живым и невредимым. И на всю оставшуюся жизнь (отец умер в 2004-м, когда ему шел 90-й год) короткий военный отрезок остался у него в виде вершины жизненного пути. Для отца война была одновременно трагическим, но и славным временем, и он законно гордился причастностью к завоеванной Победе. Подтверждением тому были и боевые награды, наиболее ценной из которых отец по праву считал солдатскую медаль "За отвагу".

Оба дяди, Моисей и Александр, с войны не вернулись. Моисей сложил голову в жестоких боях на озере Балатон в Венгрии. Только совсем недавно на сайте российского Министерства обороны "Мемориал" я обнаружил документ, который гласил, что рядовой Моисей Акимович Коношук погиб в марте 1945 года и похоронен в братской могиле №12 на южной окраине города Секешфехервар. Надеюсь, что когда-нибудь смогу побывать там.

Места захоронения второго дяди, Александра, до сих пор отыскать не удалось. Со слов отца, он погиб под чешским городом Острава и захоронен там в одной из братских могил. Однако все мои поиски места его захоронения результата пока не принесли. Но я не теряю надежды и продолжаю искать, поскольку для меня это больше, чем долг перед дядей.

Александр был младшим и любимым братом моей покойной матери Прасковьи Акимовны. Именно поэтому она назвала меня его именем. Непредсказуемая фронтовая судьба свела случайно, всего на 5 минут, моего отца с дядей в самом конце войны. Александр, по словам отца, воевал отчаянно, о чем свидетельствовала полная грудь орденов. Все, что сказал он отцу в напутствие — ничего здесь не бери, не замарай свои руки и совесть мародерством.

Погиб он также красиво и по-мужски, как и воевал. Его однополчане, земляки-западники, призванные вместе с ним из наших мест на фронт, рассказали отцу, как это было. Во время ожесточенного боя перебило связь. Дядя, командир отделения связистов, мог послать для ее починки любого из своих подчиненных. Александр смотрел на них, а они отводили глаза — никому не хотелось идти на свидание со смертью в самом конце войны. И он пошел сам: связь исправил, но не дошел до своих метров 50, — накрыло миной.

Вот так у меня и получилось — живу, как в песне поется, за себя и за того парня, прожившего короткую, но достойную и красивую жизнь. Дядя оставил мне в наследство свое замечательное имя — Александр (в переводе с греческого — "защитник людей"), а также высокие жизненные принципы, которым я стараюсь следовать.

...Каждый год 9 Мая, где бы я ни находился, выпиваю фронтовые 100 граммов в память об отце Илье Алексеевиче, дяде Моисее Акимовиче и Александре Акимовиче. Поднимаю также тост за здоровье большого друга нашей семьи Лидии Петровны, ветерана-фронтовика, жены прославленного партизанского комбрига, бывшего председателя Минского облисполкома Дмитрия Васильевича Тябута. Лидии Петровне уже исполнилось 92 года, и, хотя она родилась в апреле, свой день рождения отмечает 9 Мая. С праздником Победы, мои родные! С праздником Победы, оставшиеся в живых ветераны войны! С праздником Победы, дорогие земляки!

**Александр ЯРОШУК, председатель БКДП.**

ПО ПОВОДУ

*Мария ЭЙСМОНТ*

## Не заслужили?



На первый взгляд это может показаться наглостью. Белорусские военные недовольны своими пенсиями. На пленуме ветеранов войны и труда Союза офицеров Центрального района Минска было составлено целое письмо претензий и направлено в Администрацию президента и Палату представителей.

Казалось бы, с чего это им возмущаться? В нашей стране пенсии военных выше средней трудовой по возрасту как минимум процентов на 50. Учительница или участковый врач, всю жизнь пахавшие не на одну ставку, могут рассчитывать на пенсионное пособие в пределах двух миллионов. А майор, который уже в 45 лет пенсионер, — на 3 миллиона. И, понятно, что на эти деньги он не живет, как правило, военные отставники находят на гражданке неплохо оплачиваемое применение своим знаниям и силам.

Но данный протест военных, если разобраться, критиковать можно только за выбранную тактику борьбы. О своих правах они заявили уж очень тихо, предпочли "боевым" действиям переписку. Военные все же могли бы быть более решительными, ну хотя бы митинг организовали. Все же речь они ведут о том, что государство фактически их обкрадывает. Начисление пенсий военнослужащим производится с нарушением законодательства. Или если не с нарушением, то закон как дышло, повернут в сторону, выгодную государству, а не военным пенсионерам. В результате, как они считают, их пенсии в 2 раза меньше положенной суммы.

В чем же суть претензий?

Пенсия военных складывается как бы из нескольких частей: должностной оклад, оклад по воинскому званию, паек и надбавка за выслугу лет. Вопросов у бывших офицеров возникло сразу несколько.

Первый по поводу того, как последнее время рассчитывается процент пенсии исходя из должностного оклада действующего офицера. Потому что, если проанализировать сумму пенсии, то получается, что сегодня оклад командира батальона, который носит погоны полковника, не намного выше прожиточного минимума в стране — около полутора миллиона рублей. А это уже на самом деле из ряда вон.

"Неужели такое возможно? — справедливо задались вопросом военные пенсионеры. — Неужели труд полковника в нашем государстве ценится ниже труда уборщика?" И выяснили, что месячный доход действующих майоров и полковников, конечно же, больше, но за счет всевозможных надбавок. Только эти надбавки при исчислении пенсий не учитываются. В расчет берется голый оклад.

Конечно, оклады — это хитрое изобретение. И не только в армии, во всех отраслях народного хозяйства, бюджетной сфере они установлены очень низкие. Например, оклад участкового терапевта — 1 миллион 600 тысяч, преподавателя лицея еще меньше. Можно ли прожить на такие деньги? Конечно нет. Поэтому и работают на полторы ставки, загружают себя дополнительными обязанностями, которые позволяют получать небольшие надбавки к зарплате. Не раз уже слышались голоса экспертов, что такая система оплаты труда несовершенна. Но для государства она выгодна. И, как выясняется, еще и потому, что можно экономить на пенсиях.

Что еще возмутило военных пенсионеров?

Они узнали, что и в мирное время бывают военные тайны. Пенсионеры обратили внимание, что долгое время в их пенсионных расчетах остаются неизменными цифры в графе "доплата за воинское звание". Как известно, за погоны военным платят всю жизнь, и суммы эти одинаковы независимо от того, действующий офицер или находится в запасе. Так вот, военным пенсионерам за погоны полковника доплачивают полтора миллиона рублей. А действующим офицерам-полковникам, по слухам, два миллиона. Только как ни пытались военные пенсионеры узнать, обманывают их или нет, куда ни обращались (даже в Министерство обороны писали), ничего у них не получилось. Данные о доплатах за воинские звания в Беларуси засекречены! Даже от военных их скрывают!

Но и на этом претензии офицеров не закончились. Они как снежный ком становились все объемнее.

Почему пенсии военным последний раз повышались в мае прошлого года? Почему военным пенсионерам доплата к пенсии производится с 80 лет, а гражданским — с 75? Ведь все живут в одной стране, социально ориентированной Беларуси. Почему с 2005 года сумма выплачиваемого военным пенсионерам пайка остается неизменной — 58 тысяч 500 рублей? Почему за 7 лет эта сумма ни разу не индексировалась, словно не было в стране инфляции, девальвации и прочих напастей, безжалостно обесценивающих наши рубли?!

Не знаю, какие слова в своем обращении в Администрацию президента нашли офицеры, чтобы высказаться по этому поводу, но иначе чем издевательством это не назовешь. Практика включать компенсацию за паек в пенсионное пособие идет еще с советских времен. Но в те годы это были неплохие деньги: не только офицер, но и его семья на паек могла жить две, а то и три недели. Что можно купить сегодня за 58 тысяч 500 рублей? Килограмм вареной колбасы или несколько килограммов гречки или риса! Раз уж наше государство такое бедное, так отменили бы вообще эту доплату к пенсии. Нет, зачем-то сохранили. Словно специально, чтобы показать бывшим военным их место в калашном ряду.

Чем закончится переписка военных с чиновниками?

Первые ответы от чиновников уже получены. Выдержаны они в одном стиле: "ваши претензии будут рассматриваться". Отставникам дали понять: вопрос о пенсиях решается на самом верху.

И что бывшие офицеры? Ждут. Но удастся ли им такими нерешительными действиями выиграть сражение за достойную пенсию?

А что, легче жить гражданским пенсионерам?

СІТУАЦЫЯ

# Чаму паміраюць здаровыя людзі?

*Бывае, што нейкі трагічны выпадак узрывае грамадства. Хаця такі выпадак і не адзіны, і ён не нейкі ўнікальны, не беспрэцэдэнтны. Так здарылася і з трагічнай смерцю пасля аперацыі па выпраўленні перагародкі носа жыхаркі Гродна Юлі Кубаравай. Здаровая маладая жанчына напярэдадні вяселля даверылася ўрачам, каб стаць прыгожай, і ўвогуле развіталася з гэтым жыццём.*

...Сёння цяжка нават уявіць, што да 1982 года пластычныя аперацыі рабілі толькі ў Маскве. Толькі там быў адзіны на Савецкі Саюз навукова-даследчы інстытут касметалогіі, але аперацыі ў ім былі даступныя далёка не ўсім жадаючым. Потым міністр аховы здароўя выдаў загад аб стварэнні касметалагічных лячэбніц у кожнай саюзнай рэспубліцы. І яны адразу займелі попыт.

Адпаведнай статыстыкі колькасці такіх аперацый няма. Аднак спецыялісты кажуць, што іх колькасць год ад году павялічваецца ў геаметрычнай прагрэсіі. Мы перажываем бум на пластычныя аперацыі. Рахунак ідзе на дзясяткі і дзясяткі тысяч. Колькі людзей у выніку няякаснай аперацыі сталі шчаслівымі? Колькі — сталі калекамі, сапсавалі знешні выгляд, атрымалі сур'ёзныя пашкоджанні для здароўя? Пра гэта можна толькі здагадвацца. І толькі зараз, калі здарылася трагедыя, нарэшце адкрыта загаварылі пра тое, што праблема існуе. І ўзнікла не сёння.

...У свой час экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта **Дзмітрый Усс** ледзь не заплаціў сваім жыццём за такую ж аперацыю, якую зрабілі Юліі Кубаравай. У 2004 годзе ён прыйшоў у прыватны цэнтр "Сантэ", каб выправіць перагародку ў носе, а прыйшоў у сябе толькі праз паўтара месяца ў рэанімацыі ўсё той жа 4-й клінічнай бальніцы.

Палітык узгадвае:

*— У фірме **"Сантэ"** на Трасцянецкай працавалі не абы-хто, а медыкі з 2-й клінічнай бальніцы. Я прыйшоў на запланаваную аперацыю, зрабілі наркоз... Ужо потым я даведаўся, што мяне, беспрытомнага, перавезлі ў рэанімацыю 4-й клінікі. Я быў у коме паўтара месяца. Ляжаў на штучнай вентыляцыі лёгкіх. Клінічную смерць канстатавалі шэсць (!) разоў. Спынялася сэрца.*

*Чаму так здарылася? Я лічу, што мела месца перадазіроўка наркозу. Але толкам так нічога і невядома. Больш за тое, калі я знаходзіўся ў коме, урачы не раз хацелі адключыць апарат вентыляцыі лёгкіх. Гэта мая жонка не дазволіла, гэта яна рабіла ўсё, каб я выжыў. Я прыйшоў у клініку на сваіх нагах. Важыў 120 кг, а пасля рэанімацыі — 70. Не мог рухаць ні нагой, ні рукой, не мог нават галаву трымаць. Наноў вучыўся і хадзіць, і размаўляць. Як дзіця быў — усяму трэба было вучыцца. Нават давялося з лагапедам займацца...*

***— Колькі спатрэбілася часу, каб цалкам аднавіцца?***

*— А хто сказаў, што я аднавіўся? Нават не думаю, што аднавіўся на 80 працэнтаў. Хаця потым ляжаў і ў Аксакаўшчыне, і ў Зеленаградзе, дзе касманаўты рэабілітацыю праходзяць, за мяжой быў у санаторыях... Тым не менш некаторыя парушэнні, калі мозг не атрымліваў кісларод, адбіліся назаўсёды. І з гэтым нічога не зробіш.*

***— Прыватная клініка кампенсавала выдаткі на лячэнне і маральны ўрон?***

*— Яны заплацілі за пуцёўку ў санаторый. Здароўе, канешне, не вернеш. Я з задавальненнем аддаў бы ім тую кампенсацыю, толькі б вярнуць страчанае здароўе. Думаю, што размова ідзе прыкладна пра 35 000 — 40 000 долараў, бо яны заплацілі за рэабілітацыю, за ўсе медпрэпараты і г.д. Але ў гэтай фірмы было шмат заступнікаў. Дарэчы, таго анестэзіёлага, які мяне ледзь не адправіў на той свет, потым прызначылі загадчыкам хірургічнага цэнтра. Вось і рабіце высновы.*

Смерць 23-гадовай Юліі Кубаравай, якая так і не выкараскалася пасля аперацыі рынапластыкі, якую рабіла ў "Экамедсэрвісе", выклікала вялікі розгалас. Аляксандр Лукашэнка асабіста даручыў "разабрацца" і вызваліць ад займаемых пасад усіх вінаватых медработнікаў і адміністрацыйны персанал цэнтра. Толькі пасля гэтага ўсё заварушылася, пачаліся затрыманні і арышты.

Праўда, "разбірацца" сталі звычайным спосабам: распачалі крымінальную справу і затрымалі спачатку дырэктара клінікі **Галіну Валжанкіну**, а потым да справы дадаліся яшчэ пяцёра фігурантаў — хірург, які праводзіў аперацыю, урач-анестэзіёлаг, галоўны інжынер і медсёстры. На момант здачы гэтага нумара ў друк хірурга і аперацыйную медсястру вызвалілі з-пад варты пад абавязацельства з'яўляцца на допыты. Усе астатнія — у следчым ізалятары.

Версіі прычын таго, што адбылося ў "Экамедсэрвісе", ужо актыўна абмяркоўваюцца. Папершае, стала вядома, што падчас хірургічнага ўмяшальніцтва, якое праводзілі пад унутрывенным наркозам, адключыўся апарат штучнага дыхання. Па-другое, сам апарат не правяраўся на спраўнасць з красавіка 2010 года. Па-трэцяе, некаторыя дзяржаўныя СМІ сцвярджаюць, што "хірург пасля ўмяшання з'ехаў адразу", а анестэзіёлаг зазірнуў у палату, сказаўшы бацькам, каб дзяўчыну не будзілі, і "след яго прастыў..."

Але ці так усё было насамрэч?

Пасля таго як кіраўнік дзяржавы даручыў Міністэрству аховы здароўя ўзяць пад кантроль і кіраванне медыцынскім цэнтрам "Экамедсэрвіс", аналітыкі пачалі выказваць меркаванне, што гэта пачатак нацыяналізацыі прыватных медцэнтраў. Падмацавала гэтую гіпотэзу асабістае ўмяшанне ў справу прэзідэнта, які не чакаў ні вынікаў экспертызы, ні вынікаў следства. Тым больш што яшчэ ніхто не забыўся, як у 2005 годзе былі ануляваны 23 ліцэнзіі на медыцынскую і 20 — на фармацэўтычную дзейнасць. Тады ж адклікалі ліцэнзіі ў буйных медцэнтраў "Нардзін" і "Экамедсэрвіс". Гэтыя цэнтры былі вымушаны на некаторы час прыпыніць сваю працу, але потым ім дазволілі працягнуць дзейнасць. Міністэрства аховы здароўя тады заступілася за прыватную медыцыну, тым больш што многія паслугі менавіта прыватных цэнтраў больш якасныя і нават унікальныя для нашых медыцынскіх устаноў.

Што і як будзе далей з прыватнай медыцынай, можна толькі гадаць. Што мы маем на сённяшні дзень?

Дзеянне ліцэнзіі "Экамедсэрвісу" на аказанне анестэзіёлага-рэанімацыйнай дапамогі спынена. З 3 мая працу "Экамедсэрвісу" кантраліруе прадстаўнік міністэрства **Іван Рыжко.** Дарэчы, менавіта гэтую пасаду ў Міністэрстве аховы здароўя ў свой час займала і арыштаваная дырэктар "Экамедсэрвісу" Галіна Валжанкіна. Яна нават з 2006 года некаторы час сумяшчала гэтую пасаду з пасадай галоўнага ўрача прыватнага медыцынскага цэнтра.

Акрамя таго, Міністэрства аховы здароўя ўжо праверыла 25 прыватных сталічных медцэнтраў. Высветлілася, што ў шэрагу клінік цалкам адсутнічаюць умовы для правядзення агульнай анестэзіі. Даволі часта ўрачы працуюць без медсястры-анестэзіёлага з-за эканоміі грошай. У выніку праверкі ліцэнзіі на аказанне анестэзіёлага-рэанімацыйнай дапамогі былі пазбаўлены яшчэ 6 прыватных цэнтраў. Цяпер пачынаецца праверка медцэнтраў у рэгіёнах.

Зразумела, што бацькам Юліі Кубаравай ад гэтага лягчэй не стане. Наадварот, як нялёгка разумець, што дзеля таго, каб сітуацыя зрушылася з мёртвай кропкі, спатрэбілася смерць тваёй дачкі.

Яшчэ адзін аспект праблемы — ці не трэба правяраць не толькі прыватныя медыцынскія цэнтры, але і дзяржаўныя клінікі. Бо рэдакцыі СМІ проста завалены скаргамі пацыентаў на якасць лячэння і нават абвінавачваннямі дактароў у смерці блізкіх. І ўсе аўтары сцвярджаюць, што з іх заявамі ніхто не хоча разбірацца, што ва ўрачэбным асяродку пануе сапраўдная кругавая парука?



**ТЫМ ЧАСАМ...**

## *Новая справа?*

Пакуль ідзе разбіральніцтва з "Экамедсэрвісам", стала вядома пра маладую жанчыну, якая ўжо сем месяцаў знаходзіцца ў коме пасля пластычнай аперацыі. 33-гадовая Вольга Сукора хацела выправіць прыкус. Аперацыю правялі летась 10 кастрычніка ў дзяржаўнай клініцы. Але здаровая маладая жанчына ад наркозу не адышла. Зараз і гэтай справай заняўся Следчы камітэт. І колькі такіх спраў? Хто з імі будзе разбірацца?

**Любоў ЛУНЁВА.**

З-ЗА КРАТАЎ

# *Павел СЕВЯРЫНЕЦ:* ***Палітвязні выйдуць па званку***

*Палітык не верыць у хуткае вызваленне палітвязняў. І не спадзяецца выйсці на волю да заканчэння свайго тэрміну.*

*"Думаю, што ў хуткім часе вызвалення не адбудзецца, —* выказаў Павел сваё меркаванне сайту charter97.org. — *Па крайняй меры, да заканчэння тэрміну — у мяне гэта праз пяць з паловай месяцаў. Але ў большасці палітвязняў тэрміны большыя. Мне здаецца, што могуць выпусціць Дашкевіча ў жніўні і Францкевіча ў верасні "па званку", гэта значыць па заканчэнні тэрміну. У нейкія вызваленні раней не вельмі верыцца. Вось калі б быў ціск унутры Беларусі, то можна было б пра нешта казаць. А спадзявацца толькі на Еўропу і дыялог, гэта, думаю, бессэнсоўна. Лукашэнка будзе паказваць сваю жорсткую пазіцыю ў адносінах да палітвязняў, яму патрэбны такі вобраз. Людзі, якіх ён трымае на вачах у астатніх у турме, патрэбныя яму для таго, каб іншыя баяліся".*

Павел Севярынец адбывае пакаранне ў спецкамендатуры №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. У маі 2011 года ён быў асуджаны на тры гады абмежавання волі па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года.

ЧУЛІ?

# *Парк таксі абновіцца?*

*Мінтранс Беларусі прапануе абмежаваць выкарыстанне аўтамабіляў у якасці таксі васьмю гадамі.*

У ведамстве распрацаваны праект указа прэзідэнта "Аб некаторых пытаннях арганізацыі перавозак пасажыраў аўтамабілямі-таксі". У ім, дарэчы, і ёсць норма, якая прадугледжвае з 1 мая 2014 года абмежаваць "срок эксплуатацыі аўтамабіляў-таксі васьмю гадамі з моманту вырабу дадзеных транспартных сродкаў".

Мінтранс тлумачыць сваю прапанову клопатам пра бяспеку перавозак пасажыраў. І прыводзіць статыстыку: у мінулым годзе 20% аўтамабіляў, якія эксплуатуюцца больш за 10 гадоў, пры тэхаглядзе былі прызнаны няспраўнымі і не дапушчаны да ўдзелу ў дарожным руху. А 60% таксі ў Беларусі якраз-такі і маюць тэрміны эксплуатацыі больш за 8 гадоў.

Аднак прапанова Мінтрансу выклікала супярэчлівыя меркаванні сярод экспертаў. Намеснік старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Сяргей Антусевіч**, напрыклад, выказаў думку, што такім чынам Беларусь падтрымлівае расійскіх вытворцаў і калі такія правілы набудуць моц, на нашых дарогах можа стаць менш машын таксі, і частка людзей застанецца без працы.

*— Пасля ўступлення Беларусі ў адзіную мытную прастору ў нас не стала больш новых аўтамабіляў,* — кажа Сяргей Антусевіч. — *Натуральна, тыя, што ўжо ёсць, з кожным годам будуць старэць. Мы ўсе выдатна разумеем, што таксі — гэта машына, якая працуе кожны дзень, і пасля такой працы ад яе застаецца мала "жывога". І таксісты, якія не змогуць замяніць аўто, страцяць працу. Грамада таксістаў будзе вымушана купіць новыя аўтамабілі тыпу "Лада Каліна", гэта значыць больш танныя, чым якасныя японскія, нямецкія і амерыканскія аўто такога ж класа. У гэтым сэнсе Беларусь бароніць інтарэсы Расіі".*

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

САЛІДАРНАСЦЬ

# Кожны можа дапамагчы маці Юрыя Захаранкі

*7 мая "Народная Воля" наведала маці былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі,які знік 14 гадоў таму. Да зімы ў хату маці Захаранкі трэба газ, бо бабулі ўжо цяжка тапіць печку дрывамі. Але газ на пенсію не правядзеш...*

Ля дома **Ульяны Рыгораўны Захаранка** ў гарадку Васілевічы Рэчыцкага раёна шуміць высокая, стромкая бяроза. Усе дрэвы на невялікім бацькоўскім падворку садзіў яе малодшы сын Юрый. Зараз у старым вясковым доме жыве толькі Ульяна Рыгораўна, якой зімою споўніцца 90 гадоў. Узрост ды гора адбіраюць сілы, здароўе. Старой дапамагаюць суседзі і далёкія сваякі.

*"Я не сплю начамі, зусім не сплю,* — падаюць цяжкія словы. — *Ён жа быў такі добры, такі працавіты... Гаспадар у мяне рана памёр, і хлопцы мае мяне дужа глядзелі. Усе казалі, якія сыны ў мяне добрыя. І садзіць, і капаць былі спрытныя. Нават калі ў людзі выбіліся, ад працы не ўцякалі. Юра, бывала, як капане, дык адразу вядро бульбы. Суседзі ідуць міма, бачаць, як ён працуе, і кожны кажа: "Юрый Мікалаевіч — наш чалавек. Разам з намі на зямлі працуе"*.



Успаміны ды фотаздымкі — усё, што нагадвае зараз маці пра сына. У старым альбомчыку фота апошніх гадоў — тут праваабаронцы, журналісты, палітыкі, што наведваюць Ульяну Рыгораўну.

Следства па справе Юрыя Захаранкі ідзе ўжо 14 гадоў. Увесь гэты час Ульяна Рыгораўна чакае, шукае ў газетах звесткі, хоць і часта плача, хварэе ад такіх навін. І доўга не гасіць у хаце святло — можа, Юра будзе вяртацца і так адразу зразумее, што мама яго чакае...

"*Цяжка, але не тое, што я баюся памерці,* — уздыхае Ульяна Рыгораўна. — *Мне так шкада, што я засталася, а іх няма. Калі б яны былі дрэнныя, дык яны ж былі залатыя дзеці. Ніхто ніколі на іх не скажа, што былі яны абы-якія"*.

7 мая, у чатырнаццатыя ўгодкі знікнення Юрыя Захаранкі, у яго родным доме гучалі тосты і абяцанні. Абяцанні рана ці позна знайсці тых, хто пазбавіў маці законнага права цешыцца з роднага сына.

*"Я толькі не магу зразумець, за што яны так з Юрам?* — шукае адказ Ульяна Рыгораўна. — *Калі б мне сказалі, хто яго забраў, я запыталася б у таго чалавека, чаму ён так зрабіў і дзе мой сын"*.

... Перад развітаннем яшчэ доўга размаўляем на лавачцы каля плота аб справах надзённых, праблемах і радасцях. Трэба правесці да зімы ў хату газ, бо бабулі ўжо цяжка тапіць печку дрывамі. Дый і не закупіш так проста тры машыны дроў. Уся "дапамога" дзяржавы — мізэрная пенсія Ульяны Рыгораўны ў 2 мільёны 50 тысяч рублёў.

Сваячка Ульяны Рыгораўны Люба, пра жыццё якой таксама можна напісаць кніжку, сама патроху збірае грошы, каб вырашыць *"газавае пытанне"*. Люба змагла ўжо замяніць некалькі вокнаў у старой хаце, але на газ патрэбны неверагодныя грошы — каля 20 мільёнаў.

Побач з Ульянай Рыгораўнай няма сына, які б дапамог, сагрэў і вырашыў усе пытанні. Хоць яна і не просіць дапамогі, але кожны з нас можа яе падтрымаць. Разам справа будзе зроблена.

***Паштовы перавод можна адправіць на адрас: 247550, Беларусь, Гомельская вобласць, Рэчыцкі раён, горад Васілевічы, вуліца Куйбышава, 10. Ульяне Рыгораўне Захаранка.***

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

*Мінск—Васілевічы.*

РЭБУС

# *Запазычыліся Венесуэле. На якую суму?*

Аб'яднаная грамадзянская партыя накіравала зварот да беларускага ўрада, спрабуючы высветліць, колькі грошай Беларусь павінна вярнуць Венесуэле за пастаўкі нафты? Адказ за подпісам былога старшыні Нацыянальнага банка краіны, а зараз — намесніка старшыні ўрада Пятра Пракаповіча не дадаў яснасці ў гэтым пытанні.

Вось што паведаміў "Народнай Волі" старшыня АГП **Анатоль Лябедзька**:

— Мы адрэагавалі на інфармацыю, якая з'явілася ў інтэрнэце. Яе сутнасць наступная: Беларусь брала венесуэльскую нафту і за яе не расплачвалася. Пазыкі нібыта склалі 2,8 мільярда долараў. Гэта ж велізарная сума! Калі гэта праўда, то на практыцы мы, калі ўжо не банкруты, то ўпэўнена рухаемся ў гэтым накірунку. Улічваючы, што ні ўрад, ні "Чырвоны дом" не абверглі гэтую інфармацыю, мы ад партыі накіравалі запыт на імя Міхаіла Мясніковіча. Атрымалі адказ за подпісам Пятра Пракаповіча. Дарэчы, гэта рэдкасць, калі чыноўнік такога рангу бярэ на сябе смеласць асабіста адказаць, бо звычайна ўсё абмяжоўваецца загадчыкамі аддзелаў. Нам далі разгорнуты адказ пра стан знешніх даўгавых абавязкаў Беларусі. Што ж да пазык за нафту, то на гэты конт канкрэтнага адказу мы не атрымалі. Тры радкі, з якіх вынікае наступнае: "Крэдыт, атрыманы дзяржавай ад Венесуэлы, складае 500 мільёнаў долараў ЗША. Плацяжы па ім робяцца своечасова ў межах плана па вонкавым абавязку". Застаецца незразумелым — ці гэта доўг за нафту, ці гэта нейкая асобная крэдытная лінія. Так што адказ ёсць, а пытанне ўсё ж застаецца.

Вось дык дзіўная сітуацыя! Беларус, які толькі нарадзіўся, сёння ўжо мае доўг (па нашых падліках) 4438 долараў. І нават невялікія крэдыты ў 500 мільёнаў долараў, якія бяруць Лукашэнка ці Мясніковіч, вяртаць будуць не яны асабіста, вяртаць будуць грамадзяне Беларусі. Але дзе, хто, што і на якіх умовах пазычае, мы не ведаем. І, падобна на тое, што ніхто не спяшаецца рабіць гэтую інфармацыю адкрытай.

**Дар'я СОЛТАН.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Жыццёвага зняволення не атрымалі

*За гэтай судовай справай сачыў, бадай, увесь Гомель. На лаве падсудных апынуліся двое юнакоў — 19 і 18 гадоў, прычым паўналецце адзін са злачынцаў адзначыў толькі 5 мая. Калі паглядзець на падсудных і пачытаць іх біяграфіі, то ніколі і не падумаеш, што яны маглі здзейсніць такое. Дзевятнаццацігадовы абвінавачаны, навучэнец медкаледжа, цікавіўся псіхалогіяй, шмат чытаў, разбіраўся ў медыцыне, займаўся парусным спортам. Другі быў членам БРСМ, вучыўся ў Гомельскім каледжы машынабудавання. А судзілі іх за забойства. Жорсткае, сплsecuranae.*

Позна вечарам 20 ліпеня мінулага года яны папрасілі знаёмага студэнта пусціць іх у кватэру абсохнуць пасля дажджу. Калі званілі ў дзверы, то ўжо мелі пры сабе нажы, пальчаткі, каб не пакінуць адбіткі пальцаў, глюкозу (паводле тлумачэння абвінавачаных, каб "паскорыць рэакцыю") і перац, каб міліцэйскі сабака не ўнюхаў след.

Сваёй ахвярай яны абралі адзінага сына ў бацькоў. Хлопец з залатым медалём скончыў навучальную ўстанову, быў адным з лепшых студэнтаў першага курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту. Пускаючы ў кватэру начных гасцей, ён, вядома, і ўявіць не мог сапраўдную мэту іх візіту.

Злачынцы жорстка збілі маладога чалавека. Іх здабычай сталі 1,3 мільёна рублёў, стары ноўтбук, мабільныя тэлефоны, ліхтарыкі, парасон, шкарпэткі, туфлі. Вось такая цана жыцця 17-гадовага юнака.

У судзе абвінавачаныя поўнасцю прызналі сваю віну. Выступаючы з апошнім словам, 17-гадовы абвінавачаны папрасіў прабачэння ў свайго бацькі, яго 19-гадовы саўдзельнік заявіў, што "гатовы прыняць любы прысуд". Гаварыў ён рэчы разумныя, правільныя: "Ні баязлівасць, ні жаданне забіць, ні спроба выратаваць сваё жыццё цаной жыцця іншага чалавека — нельга апраўдваць адны агідныя ўчынкі іншымі, няма права вырашаць, каму жыць, каму не, хто бярэ гэта права на сябе — заслугоўвае самага суровага пакарання. ... Я не спадзяюся на дараванне". Але ж усё гэта словы...

Пракурор запатрабаваў пажыццёвага зняволення для паўналетняга забойцы, а для яго "калегі", якому на той момант яшчэ не было 18 гадоў, — 15 гадоў пазбаўлення волі.

Суд вынес іншае рашэнне: 19-гадовы ўдзельнік злачынства прыгавораны да 25 гадоў пазбаўлення волі, другі, якому толькі 5 мая споўнілася 18 гадоў, — да 15 гадоў зняволення. Бацькі забітага юнака збіраюцца абскарджваць рашэнне Гомельскага абласнога суда і патрабаваць для 19-гадовага забойцы пажыццёвага зняволення.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЖИЛЬЕ

# *Можно ли снять однокомнатную квартиру за 100 долларов в месяц?*

*Белорусские власти взяли курс на строительство арендного жилья. За 5 лет планируется построить не менее 1 млн кв.м арендного жилья, к 2015 году только в столице должно быть построено 3 тысячи арендных квартир. По мнению чиновников, это разрядит ситуацию на рынке жилья, у белорусов, нуждающихся в собственных метрах, но не имеющих возможность построить собственную квартиру, появится возможность ее снимать за относительно невысокую цену.*

Во всяком случае в разы ниже коммерческой. Сегодня агентства недвижимости однокомнатную квартиру в Минске предлагают по цене от 250 долларов, а в арендном государственном доме месяц проживания в такой же по метражу квартире стоит от 50 до 150. Но таких квартир очень мало. Например, в Минске в статус арендных переведено всего лишь около 200 государственных квартир. Снять их могут только очередники. Причем те, которые стоят в очереди на жилье с 1980-х годов. Когда арендного жилья будет построено больше, шансы его снять появятся не только у тех, кто стоит в очереди на строительство жилья. Более того, чиновники надеются, что арендное жилье составит конкуренцию частному рынку недвижимости, и даже собьет цены на аренду жилья. Действительно, так ли выгодно людям и государству арендное жилье?

Председатель совета Белорусской ассоциации "Недвижимость" Николай Простолупов считает, что на куплю-продажу, на рынок собственности оно никак не повлияет. "Точно так же, как не повлияет и на существующий рынок арендного жилья, — заявил эксперт. — В Минске, по-моему, 40 тысяч квартир, которые официально сдаются в аренду. Они построят здесь 3 тысячи квартир. Это не те масштабы, которые могут повлиять на рынок аренды, а тем более на рынок жилья. Это обычный социальный заказ для определенной категории граждан — творческой интеллигенции, научной интеллигенции и других людей, у которых нет возможности много зарабатывать, как у тех, кто, например, занимается бизнесом. Наверное, это правильное решение. Хотя, мне кажется, можно было этим людям дать льготные кредиты под 5 процентов годовых, чтобы люди все-таки были собственниками жилья. Собственник есть собственник"

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

